**Чыгрын, С.**

Жыву Бацькаўшчынай: Літаратурна-мастацкае выданне / Сяргей Чыгрын. – Гродна, 2018.- 46 с.

“Сваім талентам пісьменніка, краязнаўца, гісторыка і журналіста Сяргей Чыгрын аддана служыць Беларусі” – так сказала пра яго пісьменніца Вольга Іпатава. І гэтая кніга – таму пацвярджэнне. У ёй – творчая справаздача перад чытачамі і перад самім сабой, каб паказаць вынікі ўласнай творчай дзейнасці за пражытыя гады нястомнай працы.

# Кнігі аўтара

**Янка Купала і Слонімшчыны** (Слонімская друкарня, 1993).
Усё, што звязана з Янкам Купалам і Слонімшчынай, адлюстравана на старонках кнігі. А гэта – прыезд песняра ў 1939 годзе ў Слонім, яго сяброўства са слонімцамі Гальяшом Леўчыкам, Яўгенам Хлябцэвічам, Андрэем Пракапчуком, адкрыццё Вялікакракоцкай сельскай бібліятэкай імя Янкі Купалы – першай установы культуры, якой было нададзена імя народнага песняра, сяброўства жонкі Янкі Купалы Уладзіславы Францаўны Луцэвіч з супрацоўнікамі бібліятэкі, літаратурныя творы слонімскіх пісьменнікаў, прысвечаныя Янку Купалу і інш.



**Шчырая Шчара** (Слонімская друкарня, 1993).

У першы зборнік паэта ўвайшлі вершы лірычна-узнёслага гучання пра родную Слонімшчыну і беларускую мову, пра прыгажосць бацькоўскай зямлі, яе людзей і светлае каханне. Аўтар таксама звяртаецца да вобразаў мінуўшчыны і праблем нашага часу.



**Горад без цябе** (Слонім, 1999).
Другі зборнік вершаў паэта, куды ўвайшлі лірычныя вершы
пра каханне.



**Родам са Слонімшчыны** (Слонім, 2003).
Кніга прысвечана знакамітым слонімцам-землякам аўтара, праца і творчасць якіх заслугоўваюць пашаны беларусаў.



**Пакліканыя на родны парог** (Мінск. “Беларускі кнігазбор”, 2005).

Артыкулы, якія склалі гэтую кнігу, аб’яднаны адной скразной думкай – нагадаць чытачам пра забытых, малавядомых, але таленавітых і шчырых беларусаў, якія моцна любілі сваю Бацькаўшчыну і свой народ. Некаторыя з іх загінулі на чужыне, у бядоце і сталінскіх лагерах. Сёння прыйшоў час паклікаць іх у Беларусь.



**Чамяры і чамяроўцы** (Мінск.”Беларускі кнігазбор”, 2006).
Кніга прысвечана вёсцы Чамяры Слонімскага раёна і яе знакамітым людзям. Аўтар расказвае пра гісторыю вёскі, пра тыя падзеі, якія адбываліся там на працягу многіх стагоддзяў, але найперш у 1920-х –1930-х гадах. Выклічуць цікавасць у чытачоў і аповеды пра слынных чамяроўцаў – вядомых людзей Беларусі.



**У пошуках слонімскіх скарбаў** (Мінск. “Кнігазбор”, 2007). Аўтар распавядае пра сваю родную Слонімшчыну, пра яе людзей, гісторыю і культуру, а таксама пра скарбы, якія на працягу апошніх трох стагоддзяў зніклі з гэтай зямлі.



**Лірыка** (Слонім, 2007).
У кнігу-малютку ўвайшлі вершы паэта пра каханне.



**З беластоцкай зямлі** (Беласток. Праграмная рада тыднёвіка “Ніва”, 2008).
Мая зямля. Мая айчына. Мая Беларусь. Гэта першае, што ўражвае, калі чытаеш пра беларускія лёсы людзей родам з Беласточчыны або з ёю звязаных доўгімі гадамі жыцця ці захаплення ў XX стагоддзі. Аўтар – збіральнік і захавальнік памяці беларускіх прозвішчаў і імён Сямятыцкай, Гайнаўскай, Бельскай, Беластоцкай. Гарадоцкай, Крынкаўскай, Сакольскай і Дуброўскай зямель. Мэта выдання – заінспіраваць да хвіліны роздуму над складанымі беларускімі шляхамі і выбарамі ў мінулым стагоддзі.



**Тэатр у Слоніме** (Слонімская друкарня, 2008).

У выданні распавядаецца пра асобныя старонкі развіцця тэатральнага мастацтва на Слонімшчыне, пачынаючы з XVIII стагоддзя і да нашых дзён.



**Беларуская Беласточчына** (Мінск. “Кнігазбор”, 2008).
У кнізе аўтар расказвае пра знакамітых беларусаў Беласточчыны, пра іх жыццё, дзейнасць і творчасць, а таксама пра беларускія калектывы, гурткі і выданні XX стагоддзя на Беласточчыне.



**Мастак Антон Карніцкі** (Мінск. “Кнігазбор”, 2009).
У кнізе распавядаецца пра малавядомага і забытага беларускага мастака са Слоніма Антона Карніцкага (1912-1944) і пра той час, калі ён жыў.



**Камень Міндоўга** (Мінск. “Кнігазбор”, 2009).
У паэтычны зборнік паэта ўвайшлі вершы пра самае светлае і дарагое – Бацькаўшчыну і каханне.



**Жыў роднай песняй** (Мінск. “Кнігазбор”, 2010).
Ён быў шчыра і самаахвярна закаханы ў справу свайго жыцця, у родную беларускую песню, у музыку і ў свой народ. Імя гэтага чалавека сёння амаль забыта. Гэта Антон Валынчык (1896-1985) – беларускі кампазітар, харавы дырыжор, музычны дзеяч, педагог, заслужаны работнік культуры Беларусі. Аўтар у сваёй кнізе распавядае пра жыццёвы і творчы шлях Антона Валынчыка, вяртаючы з небыцця гэтае імя.



**Альбярцін** (Мінск. “Кнігазбор”, 2011).

Кніга знаёміць чытачоў з цікавай і адметнай гісторыяй былога мястэчка Альбярцін каля Слоніма (цяпер мікрараён горада), з яго людзьмі і помнікамі.



**Такі іх лёс** (Мінск. “Кнігазбор”, 2012).
Аўтар распавядае пра няпросты і трагічны лёс вядомых і малавядомых людзей нашай Бацькаўшчыны. Шмат новага чытачы даведаюцца пра генерала 1912 года Яна Канопку, пра беларускіх святароў Філафея і Паўла Лысуху, легендарнага доктара Усевалада Шырана, спявачку Яўгенію Чарняўскую-Орса, палітыка і гісторыка Міколу Шкялёнка, а таксама пра Рыгора Шырму, Якуба Міско, Вацлава Ластоўскага, Гальяша Леўчыка, Янука Дарашкевіча, Валянціна Таўлая, Аляксандра Чыжэўскага, Міхала Федароўскага, братоў Артымовічаў і іншых вялікіх людзей беларускай зямлі.



**Па слядах Купалы і Коласа** (Мінск. “Кнігазбор”, 2012).

Аўтар ідзе па слядах песняроў беларускага народа Янкі Купалы і Якуба Коласа. Гэтыя сляды прывядуць чытачоў на Слонімшчыну, Беласточчыну, Варшаву, у Казань, да тых людзей, якія з Купалам і Коласам сябравалі, пісалі пра іх творчасць. Эпіграфам да кожнага раздзела з’яўляюцца вершы аўтара кнігі.



**Слонімскія падмуркі** (Мінск. “Кнігазбор”, 2012).
Кніга прысвечана Слонімшчыне, яе гісторыі і помнікам, а таксама знакамітым людзям, якія адтуль родам.



**Сярод сваіх людзей** (Мінск. “Кнігазбор”, 2013).

Кнігу склалі літаратурна-краязнаўчыя артыкулы пра родныя беларускія мясціны, людзей, помнікі і кнігі. Некаторыя артыкулы публікаваліся ў беларускіх газетах і часопісах, а таксама ў тыднёвіку “Ніва” у Беластоку. У выданне таксама ўвайшлі інтэрв’ю з цікавымі і творчымі людзьмі, перапіска аўтара з Лявонам Луцкевічам, Лявонам Шпакоўскім-Случаніным і Міколам Канашам – сябрам Ларысы Геніюш.



**Краязнаўчымі сцежкамі Зэльвеншчыны** (Мінск. “Кнігазбор”, 2013).

У кнігу ўвайшлі артыкулы, прысвечаныя Зэльвеншчыне, яе гісторыі, людзям і помнікам. Яны былі напісаны падчас розных вандровак па зэльвенскім краі.



**Легенды і паданні Слонімшчыны** (Мінск. “Кнігазбор”, 2013).

Прыгожую мініяцюрную кніжачку аздобілі легенды і паданні Слонімшчыны, якія вельмі цікава чытаюцца і запамінаюцца. Гэта кніга легендаў карысная і для навукі, і для ўсіх, каму дарагая родная мова і культура. Яна добры знак таго, што збіральніцкая справа духоўных народных скарбаў працягваецца, не заглухла. Гэта свайго роду прыклад і ўзор для краязнаўцаў іншых рэгіёнаў, пачэсны абавязак якіх – зрабіць падобнае ў сваёй мясцовасці.



**Слонімскі буквар** (Мінск. “Кнігазбор”, 2013).

Выданне ўяўляе сабой своеасаблівы даведнік па горадзе Слоніме і раёне, дзе арганічна пераплятаюцца мінулае і сучаснае Слонімшчыны. “Слонімскі буквар” напісаны дзеля таго, каб чытачам прасцей было вывучыць гісторыю слонімскай зямлі. Назвы артыкулаў у ім размешчаны па парадку, як літары ў алфавіце, ад А да Я.



**Іншых шляхоў не было** (Мінск. “Кнігазбор”, 2013).

Кніга складаецца з пяці раздзелаў. У першым аўтар распавядае пра тых людзей, якія змагаліся за Беларусь, і пра тых, якія дапамагалі беларускай культуры, гісторыі, літаратуры. У другім ідзе гутарка пра беларусаў Беласточчыны. У трэцім аўтар спыняецца на гісторыі Слонімшчыны. У чацвёртым – расказвае пра цікавыя выданні, якія пабачылі свет у апошнія гады ў розных выдавецтвах. У пятым раздзеле надрукаваны гутаркі з Аляксеем Пяткевічам, Аленай Васілевіч, Вячаславам Рагойшам, Лідзіяй Арабей і іншымі вядомымі людзьмі.



**Гісторыя Слоніма на старых фотаздымках і паштоўках (1900-1950)** (Мінск. “Кнігазбор”, 2014).

Кніга адлюстроўвае аблічча Слоніма, яго архітэктуру, помнікі, падзеі, а таксама людзей, якія жылі ў першай палове ХХ стагоддзя ў гэтым старажытным на гістарычныя факты горадзе над Шчарай.



**Хочацца дахаты** (Мінск.”Кнігазбор”, 2014).
У сваю кнігу аўтар уключыў артыкулы пра людзей малавядомых, але якія заслужылі ўдзячную памяць беларусаў, -- такіх як Андрэй Вайтовіч, Віталь Губарэвіч, Аляксандр Асіпчык, Ганна Кароль, Васіль Струмень, Ян Збажына і іншых. Асобныя раздзелы кнігі прысвечаны Міколу Арочку, Янку Саламевічу, Аляксею Пысіну, Міколу Гайдуку, Юрку Геніюшу, Сакрату Яновічу. У кнізе змешчаны гутаркі з Арсенем Лісам, Міколам Чарняўскім, Міхасём Мірановічам. Апублікаваны і старонкі гісторыі Слонімшчыны, артыкулы пра новыя, выпушчаныя ў апошнія гады, кнігі беларускіх аўтараў і выданні пра Беларусь.



**Слонім і ваколіца** (Мінск. “Кнігазбор”, 2014).
Вялікі том прысвечаны Слонімшчыне, яе гісторыі і помнікам, людзям і легендам. Шмат новага чытачы даведаюцца пра лёсы Аляксандра Асіпчыка, Кандрата Лейку, Янку Бялькевіча, Язэпа Вількоўшчыка, Яўгена Хлябцэвіча, Мікалая Варвашэвіча і многіх іншых асобаў.



**Шляхамі Беласточчыны** (Мінск. “Кнігазбор”, 2015).
Аўтар працягвае даследаваць лёсы беларусаў, якія родам з Беласточчыны, а таксама жыццёвыя дарогі знакамітых асобаў Бацькаўшчыны, якія ў розны час мелі і маюць сёння дачыненне да беластоцкай зямлі.



**Мора Віктара Шведа** (Мінск. “Кнігазбор”, 2015).

Кнігу склалі матэрыялы, прысвечаныя жыццё і творчасці найстарэйшага беларускага паэта з Беластока (Польшча) Віктара Шведа, якому 23 сакавіка 2018 года споўнілася 93 гады.



**125 пытанняў і адказаў з гісторыі Слонімшчыны** (Мінск. “Кнігазбор”, 2015).

Кніга па гісторыі Слонімшчыны ў пытаннях і адказах разлічана на шырокае кола чытачоў. Але ў першую чаргу на тых, хто цікавіцца гісторыяй сваёй Бацькаўшчыны, найперш – гісторыяй слонімскай зямлі.



**Час спагадлівым не бывае** (Мінск. “Кнігазбор”, 2016).
Кніга пра лёсы беларусаў XX – пачатку XXI стагоддзяў. У ёй выкладзены малавядомыя раней факты з жыцця і дзейнасці Адольфа Зенюка, Уладзіміра і Яўгена Хлябцэвічаў, Уладыслава Казлоўшчыка, Георгія Пеха, Міхася Ліста, Пятра Першукевіча, Андрэя Чемера, Уладзіміра Урбановіча, Алега Лойкі і іншых асобаў нашай Бацькаўшчыны.



**На радзіме Ігната Дварчаніна** (Мінск. “Кнігазбор”, 2016). Выданне прысвечана Дзятлаўшчыне, яе знакамітым людзям, помнікам і мясцінам. Артыкулы напісаны падчас гісторыка-краязнаўчых вандровак і незабыўных сустрэч на дзятлаўскай зямлі.



**Гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны (1916-2016)** (Мінск. “Кнігазбор”, 2016).

Кніга напісана ў сааўтарстве з Сяргеем Яршом. У ёй даследуецца гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны XX – пачатку XXI стагоддзяў. Гэта адно з першых асобных даследаванняў гісторыі рэгіянальнага перыядычнага друку Беларусі.



**Слонімскія гісторыі** (Мінск. “Кнігазбор”, 2017).
Кнігу склалі артыкулы пра падзеі і людзей Слонімшчыны, напісаныя аўтарам у апошнія два гады. Асаблівае месца ў кнізе займаюць матэрыялы пра землякоў-слонімцаў Леаніда Богдана, Анатоля Іверса, Міколу Арочку, Аляксандра Талерчыка, Валянціна Таўлая, Гальяша Леўчыка, Рыгора Акулевіча і іншых.



**Каляндар Слонімшчыны** (Мінск. “Кнігазбор”, 2018).
Кніга напісана ў сааўтарстве з Уладзімірам Хільмановічам. Яна адлюстроўвае падзеі, якія адбываліся на Слонімшчыне ў мінулых стагоддзях, а таксама год, дзень, месяц нараджэння і смерці вялікіх і вядомых асобаў Слонімшчыны і тых, хто тут жыў, вучыўся і працаваў.



# Кнігі, укладзеныя аўтарам

**Вяртанне да сваіх: Станіслаў Грынкевіч, Франук Грышкевіч, Уладыслаў Казлоўшчык (Беласток, 1999).**

*Укладанне, прадмова, каментар.*

Кнігу склалі творы тых аўтараў з Беласточчыны, якія шмат гадоў замоўчваліся ў гісторыі беларускай літаратуры. Час вяртання наступіў, каб іх творчая спадчына стала нашым духоўным здабыткам, прыйшла да беларускага чытача.

**Мікола Шкялёнак. Беларусь і суседзі** (Беласток. Беларускае гістарычнае таварыства, 2003).

*Прадмова і каментар.*
*Укладанне разам з Аляксандрай Гесь*
*і Міхасём Казлоўскім.*

Беларускі гісторык і палітык Мікола Шкялёнак (1899-1946) скончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюза і Беларускага навуковага таварыства ў Вільні, з’яўляўся адным з заснавальнікам Беларускага Нацыянальнага фронту, Беларускага Камітэта самапомачы ў Германіі, уваходзіў у кіраўніцтва БЦР. Рэдагаваў “Студэнцкую думку”, “Раніцу”, “Беларускую газету”. У 1945 годзе яго высачылі органы НКУС і арыштавалі, а ў 1946 годзе – расстралялі. Мікола Шкялёнак напісаў і пакінуў сваім нашчадкам праўдзівую гісторыю роднай Беларусі. Сабраныя артыкулы з розных выданняў і склалі кнігу.

**Пётр Марціноўскі. Наша Лорка** (Слонім, 2002).

*Укладанне і прадмова.*

У кнігу настаўніка і краязнаўцы з Зэльвеншчыны Пятра Марціноўскага ўвайшлі ўспаміны пра беларускую паэтку Ларысу Геніюш і вершы паэтаў Гродзеншчыны, прысвечаныя ёй.

**Игорь Бурсевич. Романтика дорог** (Слонімская друкарня, 2004).

*Укладанне і прадмова.*

У вершах паэта са Слонімшчыны адчуваецца роздум пражытага і переражытага. У вершах прысутнічаюць успаміны пра прыгожае каханне і маладосць. У кнігу таксама ўвайшлі радкі пра маленства, Беларусь, гісторыю і прыроду.

**Сяргей Хмара. Рабінавы хмель** (Мінск. “Кнігазбор”, 2009).

*Укладанне, прадмова, каментар.*

Упершыню ў Беларусі асобным выданнем выходзіць кніга выбраных твораў беларускага паэта, публіцыста, журналіста, выдаўца і палітыка Сяргея Хмары (1905-1992), які з 1944 года жыў на эміграцыі. Кнігу склалі вершы і празаічныя творы, напісаныя аўтарам у розныя гады, а таксама згадкі пра людзей, якіх Сяргей Хмара ведаў.

**Юры Весялкоўскі. Я веру** (Мінск, 2009).

*Укладанне і біяграфічная даведка.*

У кнігу беларуса Юры Весялкоўскага з Вялікабрытаніі ўвайшлі вершы-роздумы пра Беларусь, яе народ, мову, гісторыю, публіцыстычныя радкі пра сённяшні час, а таксама вершы-ўспаміны і гумарыстычныя творы.

**Леанід Трубач. Паміж песняй і болем** (Мінск. “Кнігазбор”, 2010).

*Укладанне і прадмова.*

Леанід Трубач (1963-2009) пражыў толькі 46 гадоў, але пакінуў шчыры і прыкметны след у беларускай літаратуры і педагогіцы. У гэту кнігу ўвайшло ўсё

лепшае, напісанае ім за гады ягонага кароткага жыцця, апублікаванае раней і неапублікаванае.

**Анатоль Іверс. Аўсяныя росы** (Мінск. “Кнігазбор”, 2011).

*Укладанне і прадмова.*

У кнігу старэйшага беларускага паэта Анатоля Іверса (Івана Міско, 1912 -1999) увайшлі выбраныя вершы і ўспаміны, напісаныя ім на працягу шматгадовай літаратурнай дзейнасці.

**Анатоль Іверс. З глыбінь жыцця** (Мінск. “Кнігазбор”, 2012).

*Укладанне і прадмова.*

У кнігу Анатоля Іверса (1912-1999) са Слоніма ўвайшлі артыкулы, напісаныя ім у 1960-1990-я гады падчас журналісцкіх і літаратурна-краязнаўчых вандровак па родным краі.

**Жыццё і творчасць Анатоля Іверса** (Мінск. “Кнігазбор”, 2012).

*Укладанне і каментар.*

Выданне прысвечана памяці Анатоля Іверса (1912-1999), паэта, журналіста, публіцыста, удзельніка Другой сусветнай вайны. У кнізе праз успаміны сяброў, літаратараў, землякоў раскрываецца непаўторная і таленавітая асоба, цікавая творчая біяграфія аднаго з выдатных людзей Слонімшчыны.

**Алесь Сучок. Захацелася шчасця** (Мінск. “Кнігазбор”, 2012).

*Укладанне і прадмова.*

Упершыню пад адну вокладку сабраны вершы розных гадоў заходнебеларускага паэта са Слонімшчыны Алеся Сучка (Пятра Дабрыяна, 1916-1993).

**Алесь Белакоз. Музей у Гудзевічах** (Мінск. “Кнігазбор”, 2012).

*Укладанне і прадмова.*

Пра родную зямлю, пра людзей і добрыя справы, пра Гудзевіцкі дзяржаўны літаратурна-краязнаўчы музей Мастоўскага раёна разважае ў сваёй кнізе заслужаны работнік культуры Беларусі Алесь Мікалаевіч Белакоз.

**Міхась Петрыкевіч. Народжаны вечнасць тварыць** (Мінск. “Кнігазбор”, 2013).

*Укладанне, прадмова і каментар лістоў.*

У кнігу заснавальніка Дзятлаўскага гісторыка-краязнаўчага музея, заслужанага настаўніка Беларусі, краязнаўца Міхася Петрыкевіча (1913-1999) увайшлі артыкулы, напісаныя ў розны час, а таксама пісьмы да яго і ўспаміны людзей, якія з Міхасём Фёдаравічам сябравалі і ведалі яго пры жыцці.

**Віктар Бяляцкі. Белы маладзік** (Мінск. “Кнігазбор”, 2013).

*Укладанне і прадмова.*

У кнігу паэта з Кругляншчыны ўвайшлі вершы пра родны край, пра Беларусь і яе знакамітых людзей. Вершам Віктара Бяляцкага характэрны мяккі лірызм, знітаванасць лірычнага героя з роднай зямлёй.

**Янук Дарашкевіч. Маркотныя зоркі** (Мінск. “Кнігазбор”, 2014).

*Укладанне, прадмова і каментар.*

Гэта кніга адкрывае новае імя ў гісторыі беларускай літаратуры і культуры “нашаніўскага” перыяду – паэта Янука Дарашкевіча (1890-1943), творчасць якога высока цаніў Максім Багдановіч. У зборнік увайшлі вершы паэта, адшуканыя ў розных архівах і выданнях.

**Ачышчэнне душы** ((Мінск. “Кнігазбор”, 2014).

*Прадмова і ўкладанне.*

*Укладанне разам з Міхасём Карпечанкам.*

У кнігу ўвайшлі ўспаміны пра тэатральнага рэжысёра, акцёра, педагога. Заслужанага работніка культуры Беларусі Валянціна Іванавіча Ермаловіча (1925-2004).

**Язэп Вількоўшчык. Прыкрыты сэрца боль** (Мінск. “Кнігазбор”, 2015).

*Прадмова і ўкладанне.*

*Укладанне разам з Сяргеем Яршом.*

Упершыню пад адну вокладку сабраны творы заходнебеларускага паэта і публіцыста Язэпа Вількоўшчыка (Іосіфа Вількоўскага, 1898-1984), які ў 1930-я гады актыўна друкаваўся на старонках віленскіх беларускіх выданняў.

**Кандрат Лейка. Пан Трудоўскі** (Мінск. “Кнігазбор”, 2015).

*Укладанне, прадмова і каментар.*

Упершыню ў гісторыі беларускай літаратуры пад адну вокладку сабраны адшуканыя ў архівах і бібліятэках асобныя творы пачынальніка беларускай літаратуры, аўтара “Нашай нівы” ў 1911-1921 гадах – паэта, празаіка, драматурга і педагога Кандрата Лейкі (1860-1921).

**Іван Шэга. Пра краіну і пра нас** (Слонім, 2016).

*Укладанне і прадмова.*

Кнігу склалі публіцыстычныя артыкулы на грамадска-палітычныя, культуралагічныя і медыцынскія тэмы доктара і грамадскага актывіста са Слоніма Івана Шэгі (1953-2016).

**Слонімскія настроі (**Мінск. “Кнігазбор”, 2016).

*Укладанне, прадмова і зноскі.*

У зборнік увайшлі вершы беларускіх паэтаў, прысвечаныя старажытнаму Слоніму і яго ваколіцам, а таксама знакамітым людзям слонімскай зямлі.

**Аўген Бартуль. Князёўна** (Мінск. “Кнігазбор”, 2017).

*Укладанне, прадмова і каментар.*

Упершыню ў Беларусі асобным зборнікам выдаюцца выбраныя паэтычныя творы заходнебеларускага паэта Аўгена Бартуля.

## Пераклады

На беларускую мову пераклаў вершы французскіх паэтаў Поля Элюара, Луізы Мішэль, Эжэна Пацье, Поля Верлена, Гіёма Апалінэра, украінскіх паэтаў Рыгора Елішэвіча, Валерыя Бойчанкі, Любові Пшанічнай, турэцкага паэта Фазыла Хюсню Дагларджы, п’есы А. Хайта, К. Манье, Э. Успенскага, К. Гальдоні, А. Астроўскага, С. Міхалкова, С. Пракоф’евай, Н. Абрамцавай, Г. Лабакіна, К. Папова, М. Каляды і іншых драматургаў. Многія спектаклі па іх п’есах пастаўлены на сцэне Слонімскага драматычнага тэатра і іншых тэатраў Беларусі.

## П’есы

Напісаў п’есу для дзяцей “Белая мышка” (у сааўтарстве з Аляксеем Якімовічам, пастаўлена ў 2005 годзе), “Падарункі Дзеда Мароза” (пастаўлена ў 2013 годзе) і дзіцячую п’есу “Зачараваная хатка” (у сааўтарстве з Васілём Ткачовым, пастаўлена ў 2016 годзе).

У 2018 годзе з-пад пяра выйшла камедыя для дарослых “Банкамат для пенсіянераў”.

## Песні

На мае вершы напісаны песні кампазітарамі Міколам Яцковым, Яўгенам Петрашэвічам, Аляксандрам Масляніцыным, Мар’янам Медушэўскім.

## “Слонімскі край”

Разам з Сяргеем Яршом з лютага 2016 года выдаю штомесячнае гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне “Слонімскі край”. Выйшаў з друку ўжо 31 нумар.

